

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№30(543) 11 лютага 1993 г. Чацвер. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 607902 экз. | Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### Через границу в порт

**На вторую половину февраля запланирован официальный визит премьер-министра Беларуси Вячеслава Кебича в Латвию.**

Как нам стало известно, будут подписаны договор о границах, соглашения о торгово-экономическом сотрудничестве, об использовании морских латвийских портов для получения белорусских грузов.

Посол Латвийской Республики в Беларуси Янис Лоуникс заявил также, что в ближайшее время между двумя государствами предполагается заключить договор о безвизовом перемещении граждан.

Антон ЧЕКОВ.

### "Ум, честь и совесть" возвращаются

**Бывший первый секретарь Витебского обкома КПБ, ныне генеральный директор ПО "Доломит" Владимир Григорьев передал местным органам массовой информации сообщение о состоявшемся на днях заседании бюро областного комитета компартии Беларуси.**

Бюро решило призвать всех бывших членов КПБ, которые не отказались от социалистических идей и не вступили в новую организацию — Партию коммунистов Беларуси, восстанавливать на местах органы КПБ, создавать ячейки, проводить собрания по подготовке к пленуму ЦК и очередному съезду компартии Беларуси. Было заявлено, что "старая" партия будет работать во взаимодействии с ПКБ. Это заседание проходило в помещении облсельхозтехники в рабочее время.

❑

**Как уже сообщалось, в Минске на днях прошло также заседание бюро ЦК КПБ.**

По словам второго секретаря ЦК А.Камая, на нем присутствовали 17 из 24 членов бюро компартии. В феврале запланировано провести пленум, а в апреле — съезд.

Кстати, Вячеслав Кебич, Сергей Линг, Анатолий Костенко, Эдуард Широковский на заседании не присутствовали, так как вышли из коммунистической партии.

Сергей БУТКЕВИЧ, Константин УЛЬЯНОВ.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Вкратце

Вчера в столице Боснии Сараево было относительно спокойно. Загребское радио сообщило лишь о перестрелках в районе хорватской береговой линии.

❑

Выступая на пресс-конференции в Ханое, президент Франции Миттеран призвал США отменить экономическое эмбарго против Вьетнама, назвав его анахронизмом.

❑

Генеральный прокурор России Валентин Степанков внес представление Центральному совету Национально-республиканской партии, потребовав реформировать военизированную организацию — Российский национальный легион.

(По сообщениям радиостанций "Свобода" и Би-би-си.)

### Ельцин смягчается...

**Президент России заявил, что он не будет жестко настаивать на проведении в апреле референдума по основным положениям новой Конституции.**

С этим заявлением он выступил на заседании Конституционной комиссии. Вместо референдума Ельцин предложил объявить годовой мораторий на политические конфликты с целью стабилизации экономики. По его мнению, парламентские выборы следует провести в следующем году, а в 1995-м — президентские.

Юрий СВИРКО.

### Польша скоро ощетинится?

**В последние годы германские фирмы используют территории стран Восточной Европы, а также государств бывшего СССР для складирования отходов промышленного производства.**

Факты, подтверждающие это, привела вчера боннская газета "Вельт".

В 1991-92 гг. в Румынию в проржавевших бочках были доставлены 2000 тонн пестицидов, срок хранения которых давно истек. Декларирован этот опасный груз был как гуманитарная помощь.

Около 7000 тонн высокотоксичной пыли из фильтров сталеплавильных предприятий земли Северный Рейн-Вестфалия (ФРГ) были отправлены в Польшу. С 1990 года этот опасный груз находится в грузовом порту города Щецина.

Геннадий КУЛЬБИЦКИЙ.

### Отравлен по рецепту врача

**Парламент Нидерландов постановил разрешить со следующего года умерщвление врачами безнадежно больных пациентов по их просьбе.**

Установлено 28 требований, которые необходимо соблюсти. Одно из них — смертельно больной должен испытывать нестерпимую боль и более чем один раз попросить умертвить его. Большинству таких пациентов будет делаться инъекция яда.

Антон ЛЕСНОЙ.

### Эх, пропишу!.. За 150 тысяч

**Паспортная прописка ущемляет права граждан, и отменить ее необходимо уже сегодня — таково мнение 94 процентов минчан, опрошенных независимой социологической группой "Мнение".**

При всем при том надо признать, что последствия отмены прописки в сегодняшней ситуации непредсказуемы. Достаточно представить толпы беженцев из "горячих" точек бывшего Союза, которые обязательно устремятся в республику, где нет прописки.

Кстати, стоимость прописки на "черном" рынке Минска достигает 150 тысяч рублей.

### Экономные депутаты

**Разговоры о том, что народные депутаты Республики Беларусь транжирят валютные средства, часто выезжая за границу, оказывается, сильно преувеличены.**

В 1992 году на командировочные расходы было выделено из бюджета валютных средств 142 тысячи долларов США. Использовали депутаты всего 23,5 тысячи "зелененьких". Так что парламентарии наши вовсе не транжиры!

Иван НИКОНЧУК.

### Такая она, "Жизнь"

**В Минске создана общественная организация "Жизнь", которая будет заниматься социальной защитой переселенцев из районов, пострадавших от катастрофы на Чернобыльской АЭС.**

Кстати, по сведениям БелаПАН, в белорусской столице проживает более 11 тысяч переселенцев из загрязненных районов.

Алесь КНЯЗЮК.

### Дорогой наш "Нафтан"...

**Поздравления с 30-летием принимает новополоцкое ПО "Нафтан".**

Правда, юбилейное настроение омрачено тем, что со времени выпуска первого белорусского бензина поставки нефти сократились почти наполовину, зато цена за тонну поднялась с нескольких десятков рублей до 25 тысяч. Подорожание же бензина еще более внушительное. Иначе и не удалось бы, наверное, нефтепереработчикам сохранить абсолютное большинство коллектива.

Сергей СЕРГЕЕВ.

### Долг платежом красен

**В прошлом году 109 предприятий Брестской области уменьшили выпуск продукции. И хотя с декабря спад производства приостановлен, ситуация в экономике по-прежнему непредсказуема.**

Такие грустные факты прозвучали на расширенном заседании координационного совета руководителей промышленных предприятий и предпринимателей области, которое состоялось в Бресте.

Среди насущных проблем были выделены две — положение с энергоносителями и взаиморасчеты с республиками. Область должна вернуть России свыше пяти миллиардов рублей. Та, в свою очередь, три миллиарда не заплатила брестчанам.

Иван КУКСО.

### Перекачали, называется

**Халатность работников лидского комбината "Лакокраски" едва не привела к серьезной аварии.**

При перекачке легковоспламеняющегося вещества из железнодорожной цистерны в цеховые резервуары оказалась открытой "опорная арматура перегонного устройства"... Аварию удалось быстро ликвидировать. Однако ущерб, по предварительным данным, оценивается почти в 800 тысяч рублей.

Анна БАСИКЕВИЧ.

### Акаев в белокаменной

**Вчера начался официальный визит в Москву президента Кыргызстана Акара Акаева.**

Он проведет переговоры с президентом Б.Ельциным, с которым обсудит вопросы двусторонних экономических отношений, а также проблему функционирования механизмов СНГ.

Виктор ЗАМИРОВ.

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентства ИТАР—ТАСС, БелаПАН и РИД.

*Людзі справы*

## Пабудуемся!







Тры гады назад старшыня калгаса "Вішнёўка" Мінскага раёна Мікалай Сцяпанавіч Лапуць зрабіў важны і адказны крок — распачаў шырокае жыллёвае будаўніцтва, уклаўшы ў яго яшчэ па старых цэнах дзесяць мільёнаў рублёў. Дамы будавалі шыкоўныя, што называецца, на вякі, дадаўшы да натуральнай прыгажосці вішнёўскіх мясцін створаную прыгажосць вартага чалавечага жытла. Але ўзлёт цэн жорстка сцебануў па планах старшыні і калгаснікаў, і сёння цяжка падлічыць, колькі яшчэ спатрэбіцца грошай, каб зрабіць навасёламі вішнёўскіх будаўнікоў. Сам Мікалай Сцяпанавіч верыць у добрую будучыню, і небяздоказна. Нядаўна ён прымаў віншаванні, бо стаў бацькам трэці раз. А як гадаваць трох дзяўчынак без веры ў тое, што ўсё ў рэшце рэшт будзе добра?

Сяргей ГРЫЦ, фота аўтара.

*Беларусь—ЗША*

## Тэлефонная размова Станіслава Шушкевіча і Біла Клінтана

**Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў прэс-службе Вярхоўнага Савета Беларусі, вечарам 9 лютага па ініцыятыве прэзідэнта ЗША Біла Клінтана адбылася тэлефонная размова кіраўніка Белага дома са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам. У час гутаркі абмеркаваны пытанні, якія маюць узаемную цікавасць.**

Прэзідэнт ЗША вітаў ад сябе асабіста і ад імя амерыканскага народа Старшыню Вярхоўнага Савета Беларусі і парламентарыяў, адзначыўшы іх паслядоўныя крокі на шляху да набыцця Беларуссю статуса бяз'ядзернай і нейтральнай дзяржавы. Так Біл Клінтан расцаніў ратыфікацыю Вярхоўным Саветам рэспублікі 4 лютага Дагавора аб скарачэнні і абмежаванні стратэгічных наступальных узбраенняў (СНУ-1) і Лісабонскага пратакола да яго. А таксама рашэнні аб далучэнні Рэспублікі Беларусь да Дагавора аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі.

Амерыканскі прэзідэнт запэўніў кіраўніка Беларусі, што ЗША прадаставяць гарантыі бяспекі рэспублікі. Акрамя фінансавай дапамогі ў рамках закона Нана-Лугара была выказана гатоўнасць аказаць Беларусі дадатковую падтрымку ў рэалізацыі комплексу праблем, звязаных з практычным выкананнем прынятых ёю абавязацельстваў па ўпамянутых дагаворах. Біл Клінтан паведаміў Станіславу Шушкевічу аб сваіх даручэннях правесці кансультацыі па гэтых пытаннях на ўзроўні знешнепалітычных ведамстваў.

Адбыўся абмен думкамі аб расшырэнні двухбаковага супрацоўніцтва, уключаючы эканамічную і культурную сферы. Біл Клінтан выказаў жаданне прадоўжыць дыялог на вышэйшым узроўні.

Станіслаў Шушкевіч пацвердзіў вернасць узятаму Беларуссю курсу на статус нейтральнай і бяз'ядзернай дзяржавы, імкненню рэспублікі ўнесці свой уклад у справу ўмацавання міру і бяспекі. Ён адзначыў зацікаўленасць Беларусі ў развіцці дружалюбных і ўзаемавыгадных адносін паміж дзвюма дзяржавамі.

Беларускі кіраўнік падкрэсліў, што ў рэспубліцы створана прававая база для абароны інтарэсаў замежных інвестараў і ў сувязі з гэтым выказаў зацікаўленасць у прыцягненні не толькі дзяржаўных, але і інвестыцый з боку прыватнага капіталу ЗША.

Гаворачы аб магчымасцях гуманітарнага супрацоўніцтва, С.Шушкевіч выказаўся за далейшае расшырэнне кантактаў з беларускай дыяспарай у Злучаных Штатах.

Кіраўнікі дзяржаў выказаліся на карысць пастаянных кантактаў на розных узроўнях.

❑

Як стала вядома з дыпламатычных крыніц, у сувязі з гутаркай 9 лютага па тэлефоне паміж Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам і прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам Белы дом выказвае поўнае задавальненне праведзенай размовай, характарызуючы яе атмасферу як вельмі цёплую. Асобы, якія прысутнічалі ў авальным кабінеце ў час размовы, адзначаюць, што Біл Клінтан задаволены фактам, зместам і тонам гутаркі.

❑

Як паведаміў прадстаўнік прэс-службы беларускага парламента, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч вельмі станоўча ацэньвае праведзеную па тэлефоне размову з прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам і лічыць гэты дыялог надзвычай карысным для развіцця адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Злучанымі Штатамі Амерыкі.



*Актуальна*

## Падрыхтуйце вашы кашалькі...

**Індэксацыя ўкладаў, аб неабходнасці якой так доўга гаварылі парламентарыі, здзейснілася. Дэпутаты далі жыццё праекту пастановы Вярхоўнага Савета "Аб індэксацыі ўкладаў насельніцтва ва ўстановах Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь".**

Адказаць на пытанні, звязаныя з індэксацыяй, карэспандэнт Белінфарма папрасіў начальніка Упраўлення зберажэнняў Ашчаднага банка рэспублікі Аляксандра Баркуна.

— Служачыя банка пакуль што не гатовы даць вычарпальны адказ па большасці са спрэчных момантаў, што могуць узнікнуць ва ўкладчыкаў у сувязі з індэксацыяй. Яшчэ не распрацаваны канкрэтны пакет дакументаў, на якія можна было б спасылацца банкірам. Таму сёння я вазьму на сябе смеласць пракаменціраваць толькі саму пастанову Вярхоўнага Савета.

У першым артыкуле пастановы сказана: "У мэтах частковай кампенсацыі страт ад інфляцыі прызнаць неабходным ажыццявіць індэксацыю ўкладаў насельніцтва, што знаходзіліся ва ўстановах Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь па стану на 1 студзеня 1991 года (за выключэннем укладаў на аб'яднаных і кампенсацыйных рахунках), шляхам павышэння ў пяць разоў укладаў размерам да адной тысячы рублёў уключна і на чатыры тысячы рублёў астатніх укладаў".

Разбяром на канкрэтным прыкладзе, — прапанаваў Аляксандр Іванавіч. — Калі ва ўкладчыка на 1 студзеня 1991 года на кніжцы ляжала сума да адной тысячы рублёў уключна, то пасля індэксацыі гэты ўклад павялічыцца ў пяць разоў. Калі ж уклад складаў ад 1001 рубля і больш, то да яго трэба прыплюсаваць толькі чатыры тысячы рублёў.

Гэтым арыфметычным працэдурам не падлягаюць два віды ўкладаў. Аднаго з іх — кампенсацыйнага — у тыя часы яшчэ не існавала. Што падразумявалі пад гэтай назвай дэпутаты, сказаць цяжка. А аб'яднаныя рахункі — гэта сумы ў некалькі рублёў, пра якія ўкладчыкі маглі даўно забыць.

Другі артыкул "Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь да 1 мая 1993 года ажыццявіць выплату сум індэксацыі з аднясеннем расходаў на дзяржаўны ўнутраны доўг Рэспублікі Беларусь" каменціраваць, здаецца, няма патрэбы.

С.ЗАЯЦ.

### *Ало, вас слухае "Народная газета"*

**12 лютага, у пятніцу, з 9 да 13 гадзін па тэлефоне 29-69-87 вас будзе слухаць Алена Малочка, аглядальнік па пытаннях маралі і права.**



**Алена Малочка — пра сябе.**

Мая біяграфія ўкладваецца ў два радкі. Карэнная мінчанка. Закончыла школу, потым — універсітэт. З 1982 года — у прафесіянальнай журналістыцы: піянерская газета "Зорька", рэспубліканская "Сельская газета" і, нарэшце, "Народная", працую ў якой з дня заснавання.

Замужам. Дачцэ Дар'і 12 гадоў.

Прытрымліваюся прынцыпу ненасілля. Веру ў інтуіцыю, у лёс і справядлівасць.

*Ці чулі?*

### Прафесар ляціць самалётам. А дапамога плыве морам

Японская "каманда" з адзінаццаці чалавек прылятае сёння ў Мінск. Яна будзе госцем беларускага дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля". Фундамент гэтай дружбы быў закладзены год назад, калі ў раёнах, што пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы, пабываў прафесар Хірошы Іасізава. Уражаны ўбачаным, ён разгарнуў па ўсёй Японіі кампанію ў дапамогу беларускім дзецям. За гэты час у Краіне Узыходзячага Сонца пабывалі ўжо восем груп "чарнобыльскіх" дзяцей.

Цяпер прафесару ўдалося падключыць да акцыі прадстаўнікоў новых грамадскіх арганізацый сваёй краіны. Яны і прылятаюць у Мінск самалётам, а па моры ўжо адпраўлены вялікі транспарт з медыкаментамі і дзіцячым харчаваннем.

— Люты — месяц шырокіх кантактаў з міжнароднымі арганізацыямі, — гаворыць старшыня праўлення фонду народны дэпутат Беларусі Генадзь Грушавой. — Следам за японцамі з намерам расшырыць супрацоўніцтва да нас прыязджаюць прадстаўнікі Італіі, аўстрыйскага аддзялення сусветнай арганізацыі "Карытас".

Гэтым днямі мы атрымалі вестку з Прагі. Туды па лініі фонду адпраўлена пяцёра дзяцей ва ўзросце ад 4 да 13 гадоў. Яны будуць лячыцца ў прафесара Крыла ва універсітэцкай клініцы. Як паведаміў прафесар, ён і яго супрацоўнікі гатовы на працягу года прымаць у сябе хворых дзяцей з чарнобыльскіх раёнаў.

Белінфарм.

*Взгляд*

# Раскрепостите народ, и он сам себя накормит

**Иван НИКИТЧЕНКО, заместитель председателя Белорусской крестьянской партии, член-корреспондент Академии наук Республики Беларусь, профессор.**

Ранее существовавшее разделение труда в рамках СССР и СЭВ привело к тому, что фармацевтическая промышленность развивалась в Польше, Венгрии, ГДР и некоторых республиках Советского Союза. В результате Беларусь осталась без средств профилактики и лечения. В то же время наши ученые имеют немало хороших разработок. С целью выхода из положения объединение "Агронаука" решило организовать производство крайне нужных препаратов. С этой целью в начале года было арендовано здание вивария в Белорусском НИИ животноводства и начат монтаж оборудования. Потребовалась кое-какая перестройка корпуса. Но поскольку это арендное помещение, то, оказывается, реконструкция не допускается. Предприняли попытку выкупить здание, которому больше 20 лет. К тому же оно почти не использовалось по назначению с момента ввода. Но не тут-то было. Хотя институт дал согласие на выкуп, поддержку оказало также Министерство сельского хозяйства и продовольствия, вроде бы с пониманием отнеслись и в Госкомимуществе РБ. Но с момента подачи заявки прошло почти четыре месяца, а вопрос так и не решен.

Заявка так и не попала в проект плана приватизации на 1993 год, который был подан в Совмин тем же комитетом. А тут парламентариев осенило, что нужно приватизацию приостановить.

Вот и все. На этом наша попытка организовать производство нужной продукции закончилась.

Но если бы этот этап даже удалось пройти, то есть второе, практически непреодолимое, препятствие. Об этом надо было бы знать депутатам при принятии решения. Существуют Методические указания по переоценке основных фондов предприятий, организаций и учреждений N 39 от 21 июля 1992 г., утвержденные председателем ЦСУ Ничипоровичем, согласованные с первым заместителем Госэкономплана Вечерко, министром финансов Янчуком, заместителем Госстроя Белогорцевым, согласно которым стоимость таких зданий на 1 января 1992 года умножается на коэффициент 35, а оборудование в нем — на 18. Конечно, такая цена "от фонаря" уже не по силам "Агронауке". Да и сама покупка просто бессмысленна, так как для покрытия затрат на приобретение здания стоимость продукции в сравнении с ныне действующими ценами нужно увеличивать в 17—20 раз. Кто сможет купить ее по такой цене? Отсюда главный вопрос: какой дурак будет этим заниматься?

Вот вам зеркало вашей деятельности, народные депутаты и члены правительства. И после этого вы еще говорите о рыночной экономике, о спекуляции. Ведь, по существу, многие негативные явления инспирируются.

На мой взгляд, не выдерживает критики финансовая политика. Она, по сути, направлена против рыночной экономики как в доходной части, так и в расходной. Налоговая система работает против предпринимательства, производителей продукции. Вот несколько подтверждений. Как можно простимулировать инвестиции в технологии, если основные средства облагаются налогом? Вряд ли найдется вразумительный ответ на этот вопрос. Где, в каком государстве мира существует налог, подобный нашему чрезвычайному чернобыльскому? Людей, живущих на ядерном полигоне, каковым является наша Беларусь, еще и облагают налогом, вместо того, чтобы платить им за риск.

А обязательные отчисления в пенсионный фонд? Иначе как скрытым государственным рэкетом это явление не назовешь. Основная масса людей не знает, что за этими отчислениями стоит недополучение 36 копеек на каждый рубль, начисляемый к получению денег. Подобные действия Верховного Совета начали повторять его младшие братья, Советы низших уровней, придумывая свои налоги типа отчислений в небюджетный фонд ведомственных дошкольных учреждений, в дорожный фонд и другие.

Вот как это выглядит практически. По объединению "Агронаука", о котором шла речь выше, общая сумма налогов составляет 80 процентов к балансовой прибыли. Кроме того, местные власти добавили еще два налога — на содержание детских дошкольных учреждений и на дороги (хотя служебной машины у фирмы нет) — в общей сложности 10 процентов от прибыли. Разве можно в таких условиях создать какое-то серьезное производство?

В то же время совершенно не используется по указанной выше причине такой важный источник денежных средств, как реализация государственного имущества. Мы сегодня можем видеть множество пустующих, разрушающихся зданий и сооружений, которые при хозяйском подходе могли бы еще послужить людям.

Много нареканий вызывает расходная часть бюджета. По моим подсчетам, четыре пятых расходов на финансирование народного хозяйства, а это около 50 млрд. рублей, спорны. Особенно это касается дотаций перерабатывающей промышленности, торговле, сельхозпредприятиям.

Посмотрим, что в итоге получается. Хозяйства получают деньги за сданный на мясокомбинат скот из средств дотаций по твердой закупочной цене независимо от того, будет или не будет реализовано мясо. Мясокомбинат перерабатывает и отправляет мясо в холодильники, получив за работу с учетом налога на добавленную стоимость деньги из того же фонда. Холодильники берут плату за хранение и тоже не несут ответственности за качество продукции. Предприятия торговли получают из них по предварительному заказу мясо для реализации в магазинах по розничным ценам, которые малодоступны для бедных слоев населения. Поскольку покупательная способность людей падает, реализация идет с трудом. Предприятия торговли вынуждены заказывать его меньше. В итоге в холодильниках скапливается огромное количество нереализованной скоропортящейся продукции. Мясокомбинаты из-за переполнения холодильников не могут принимать скот от хозяйств. Последние, ощущая дефицит кормов, вынуждены уменьшать поголовье животных. А что будет дальше?

Для выхода из этой парадоксальной ситуации, конечно же, необходимо немедленно отказаться от дотаций на сельскохозяйственную продукцию, предоставить полную свободу колхозам и совхозам в переработке и реализации собственной продукции, дать право самим нанимать "переработчиков" и предприятия торговли, устанавливать цены.

Скажите, а до каких пор мы будем тратить около 4 миллиардов рублей на содержание разбухшего аппарата управления? Можно задать немало других подобных вопросов. Но, судя по ходу сессии Верховного Совета и деятельности правительства, ответы на них мы не скоро получим.

Сегодня уже около 100 тысяч семей имеют желание стать хозяином на земле. Я далек от мысли, что все они смогут организовать свое хозяйство, но половина из них может справиться с этим сложным делом. При условии наделения их минимальным оптимумом в 50 гектаров почти 40 процентов пашни получат своих настоящих хозяев. Будьте уверены, что они, если им не мешать, а помогать, быстро решат продовольственный вопрос.

Не надо забывать и о миллионах горожан, большинство из которых вчерашние селяне. В условиях краха экономики, развала основного производства, безработицы для многих городских семей кусок земли может стать средством для выживания. И землю им дать придется. Причем не на неудобицах, а хорошую пахотную землю вблизи городов, где хорошее транспортное сообщение.

Но вместо трезвой оценки обстановки и объективных выводов мы слышим громкую фразеологию бывших партийных функционеров о спасении колхозов, совхозов и других социалистических ценностей. Но видно даже слепому: для того, чтобы остановить сползание агропромышленного комплекса к полнейшей разрухе, необходимо немедленно осуществить ряд кардинальных мер по его реформе, естественно, в рамках общей реформы экономики Республики Беларусь.

При этом, во-первых, нужно срочно решить вопрос о собственности на средства производства и на землю в частности. Пока же эта основная проблема не только не решается, но даже всячески саботируется. Даже несовершенные законы, которые "вымучил" Верховный Совет, откровенно нарушаются представителями той же советской власти. Передача земли в пользование фермерам во многих местах идет с огромными трудностями, а кое-где уже началась обратная реакция. Так, я считаю, что в Оршанском районе Витебским облисполкомом инспирирована кампания по отбору земли у фермеров В.Полякова и О.Кучинского.

Я не берусь навязывать кому бы то ни было свою точку зрения, но мнение выскажу. В сложившейся ситуации Верховному Совету нельзя пренебрегать волей сотен тысяч сограждан. Это чревато непредсказуемыми последствиями. Чего вы боитесь? Примите решение о референдуме и готовьтесь к нему. Если вы действовали на благо людей — они вас поддержат, а если во вред — то попросят, извините за прямоту, с насиженного места. Это будет решено демократично и цивилизованно. И ваша совесть будет чиста.

*Вясковыя клопаты*

# "На палетках торфу мала, трактароў нідзе не чуць..."

**Павел МОТАЛЬСКІ**

Калі наступае люты, то на Беларусі ўжо добра такі пахне вясною — па надвор'ю мы Еўропу даганяем...

А гэта значыць — хутка земляробу ў поле. А каб вырасла што на палетках, трэба шчыраваць і зімою, добра "заправіць" зямлю ўгнаеннем.

На жаль, асаблівага руху на беларускіх палях не бачна, як у карціне, вобразна намаляванай словамі з сатырычнага верша, вынесенымі ў загаловак.

— Асноўная прычына такога зацішша — недахоп у гаспадарках дызельнага паліва, — адзначыў намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення раслінаводства Мінсельгасхарчу Вячаслаў Аляксеевіч Герасімовіч. — Не магу назваць ніводнага раёна, дзе б з гэтым было ўсё ў парадку.

Тым не менш сяляне склаўшы рукі не сядзяць, неяк выкручваюцца. На гектар яравой сяўбы ў рэспубліцы на гэты час вывезена ў сярэднім па 15 тон арганікі (трэба 20—21 тона). Найбольш адстаюць гаспадаркі Віцебшчыны і Магілёўшчыны.

З насеннем справы складваюцца лепш. З культурамі зерневай групы праблем, лічы, няма, як і з астатнім традыцыйна беларускім сельскагаспадарчым "наборам".

А вось насенне кукурузы давядзецца, відаць, купляць за мяжой — перамовы наконт гэтага вядуцца.

На падрыхтоўку да вясны сялянам патрэбны, як вядома, вялікія грошы, а кішэні ў аграрнага сектара амаль пустыя. Нядаўна з фінансамі дапамог урад: зараз 50 працэнтаў за прадукцыю гаспадаркі могуць атрымаць у якасці "перадаплаты", г.зн. адразу пасля заключэння дагавораў з закупачнымі арганізацыямі. Амаль усе гэтыя грошы і пойдуць на падрыхтоўку будучага ўраджаю.

А ён суверэннай дзяржаве патрэбны добры. Нагадаю, што ў мінулым годзе беларускі гектар даў 26,8 цэнтнера збожжа, 116 — бульбы.

Сёлета "планку" трэба падымаць як мага вышэй. І пастарацца не згнаіць тое, што атрымаем.

Так што спраў і думак у земляробаў у гэтыя зімовыя дні многа. Сельская ж гаспадарка жыве па прынцыпу: "Не падмажаш — не паедзеш". Куды ж "паедзе" рэспубліка з новым ураджаем летам і восенню, у многім залежыць ад таго, як папрацуюць вяскоўцы зімою. Калі трактароў зараз на палях будзе "нідзе не чуць", — дрэнныя нашы справы, мужыкі і кабеты...

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

## Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку назначэння і выплаты дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей

У мэтах выканання Закона Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей" Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Зацвердзіць Палажэнне аб парадку назначэння і выплаты дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей (дадаецца).

2. Кантроль за правільнасцю назначэння і выплаты прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, ажыццяўляецца адпаведнымі вышэйстаячымі органамі, пенсіённым фондам, фінансавымі органамі выканкамаў мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

**Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.КЕБІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.КАЎКО.**

3 лютага 1993 г.
*г.Мінск.*

***Валянціна ЯНКОЎСКАЯ:***

# "Галоўнае, каб у людзей было пачуццё прыгажосці і добры густ!"



Валянціна Янкоўская працуе выкладчыкам аршанскай школы N 6 з мастацкім ухілам. Выкладае малюнак, кампазіцыю і рукадзелле. Вучацца ў яе дзяўчынкі, будучыя жонкі і маці, ім і паўтарае яна часта, што не важна, стануць яны прафесійнымі мастакамі ці не, галоўнае — каб было пачуццё прыгажосці і добры густ.

А сама Валянціна, убачыўшы аднойчы ў музеі рэлігіі пад Ерэванам работы старажытных майстрых, вышытыя жэмчугам, залатой і сярэбранай ніццю, стала таксама залаташвачкай. Выкарыстоўвае яна, праўда, люрэкс — звычайную тоненькую металічную ленту, але спецыялісты ацэньваюць яе работы вельмі высока.

Так што, калі да пачуцця прыгажосці, добрага густу дабаўляецца яшчэ і талент, то атрымліваюцца цудоўныя мастацкія творы. Магчыма, і імёны некаторых вучаніц Валянціны Янкоўскай у хуткім часе стануць вядомымі для многіх і многіх жыхароў Беларусі.

**Фота Сяргея ПЛЫТКЕВІЧА.**

*Хто — куды?*

## Прызначэнні, перамяшчэнні, вызваленні

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прызначыў:

Каралёва Анатоля Мікалаевіча намеснікам старшыні Камітэта па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Булах Ніну Мікалаеўну, Дубовіка Льва Антонавіча, Жукава Міхаіла Міхайлавіча, Мішука Яўгена Сямёнавіча намеснікамі міністра энергетыкі.

Генерал-маёра міліцыі Сабалеўскага Люцыяна Бранісдававіча намеснікам міністра ўнутраных спраў.

Лойку Антона Іванавіча намеснікам старшыні Камітэта па нафце і хіміі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, вызваліўшы яго ад абавязкаў намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта па прамысловасці і міжгаліновых вытворчасцях.

Альхімовіча Тадэвуша Вацлававіча намеснікам старшыні Камітэта па нафце і хіміі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь вызваліў:

Іваніцкага Уладзіміра Сяргеевіча ад абавязкаў першага намесніка старшыні Дзяржаўнага камітэта па забеспячэнню нафтапрадуктамі ў сувязі з ліквідацыяй гэтага камітэта (п. 1 арт. 33 КЗоТ Рэспублікі Беларусь).

Шмараева Анатоля Рыгоравіча ад абавязкаў гандлёвага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь у Сацыялістычнай Рэспубліцы В'етнам згодна з пададзенай заявай.

*Афіцыйна*

# Хто мае права на дыпламатычны і службовы пашпарт?

Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь вызначаны парадак выдачы грамадзянам дыпламатычных і службовых пашпартоў для службовых паездак за мяжу.

Адзначым, што і тыя і другія выдаюцца толькі Міністэрствам замежных спраў і толькі па заяўках камандзіруючых арганізацый.

Дыпламатычныя пашпарты выдаюцца: народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь; асобам, прызначаным ці выбраным на кіруючыя пасады па рашэнню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь; членам Савета бяспекі; Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь; намеснікам Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь; міністрам і старшыням дзяржаўных камітэтаў; старшыні Кантрольнай палаты; старшыні і членам Вярхоўнага суда; Генеральнаму пракурору; старшыні Камітэта дзяржаўнай бяспекі; старшыні і членам Вышэйшага гаспадарчага суда; старшыні праўлення Нацыянальнага банка; начальніку Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і яго намеснікам; кіраўніку спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і яго намеснікам; старшыням абласных і Мінскага гарадскога Саветаў народных дэпутатаў; намеснікам міністраў і старшынь дзяржаўных камітэтаў; кіраўнікам ведамстваў; супрацоўнікам Міністэрства замежных спраў, якія маюць дыпламатычны ранг; супрацоўнікам дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў Рэспублікі Беларусь за мяжой, а таксама пастаянных прадстаўніцтваў Рэспублікі Беларусь пры міжнародных арганізацыях, якія займаюць дыпламатычныя пасады, і членам іх сем'яў; дыпламатычным кур'ерам Міністэрства замежных спраў; членам афіцыйных дэлегацый, якія выязджаюць за мяжу паводле рашэння Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь; супрацоўнікам сакратарыятаў міжнародных арганізацый, якія займаюць пасады, прыроўненыя да дыпламатычных, а таксама членам іх сем'яў.

Дыпламатычныя пашпарты выдаюцца на час знаходжання за мяжой і не пазней чым 7 сутак пасля вяртання здаюцца на захаванне: народнымі дэпутатамі — ва ўстаноўленым парадку; работнікамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, міністэрстваў і ведамстваў — ва Упраўленне спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь; супрацоўнікамі Міністэрства замежных спраў і іншых арганізацый — у консульскі аддзел Міністэрства замежных спраў.

Службовыя пашпарты выдаюцца: работнікам Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь; работнікам апарата Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь; работнікам міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў; намеснікам старшынь абласных і Мінскага гарадскога Саветаў народных дэпутатаў; кіраўнікам буйнейшых дзяржаўных прадпрыемстваў і вытворчых аб'яднанняў рэспублікі; работнікам дзяржаўных транспартных арганізацый, якія ажыццяўляюць рэгулярныя пасажырскія і грузавыя міжнародныя перавозкі; суддзям абласных і Мінскага гарадскога судоў; іншым асобам, якія накіроўваюцца за мяжу паводле рашэння Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь або міністра замежных спраў.

Службовыя заграністыя пашпарты выдаюцца пералічаным вышэй асобам на час знаходжання ў замежнай камандзіроўцы і не пазней чым 7 сутак пасля вяртання здаюцца імі на захаванне ў аддзелы кадраў камандзіруючых арганізацый.

*Спасибо, "Народная"!*

# У моих деток на лице появилась улыбка!..

Дорогая, глубокоуважаемая редакция!

От всей души благодарим весь ваш коллектив.

Я уже получаю участок под дачу в д.Астапковичи. Пусть помогает вам Бог везде и во всем так же, как вы, милые, помогли мне.

У моих деток появилась улыбка на лице. От всей души благодарны мы все. Я соберусь с силами и приеду специально отблагодарить вас всех. Также вам благодарны все мои родственники. Это дочь моя — Коробкина Ольга Федоровна, зять — Коробкин Юрий Владимирович, мой милый внучек (он еще маленький, 2 года), сваха — Коробкина Елена Максимовна, сват — Коробкин Владимир Александрович, младшая дочь Бондарева Снежана Николаевна, Бондарев Владимир Дмитриевич, мой брат Автухов Михаил Николаевич, жена брата Автухова Мария Ивановна, сестра моя Кукса Надежда Николаевна. Все вам желают успехов в труде, благополучия, крепкого здоровья, мирного неба.

Сейчас я немного заболела, пью таблетки. Как только Бог меня поднимет твердо на ноги, я тут же прилечу на крыльях к вам отблагодарить. Я вас буду благодарить до своего сомкнения глаз.

Низкий поклон вам всем!

**Анна ШУБИНА.**
*г.Светлогорск.*

*От редакции. Что тут скрывать — приятно получать вот такие письма. Греют они сердце. И если кто упрекнет нас: мол, занялись самовосхвалением — будет неправ.*

*Не в этом дело. Мы опубликовали письмо Анны Шубиной не только потому, чтобы показать, как прекрасно это подзабытое всеми нами чувство человеческой благодарности.*

*Еще важнее тут, думается, другое: как все-таки мало надо нашему человеку для счастья! Как соскучился по простому человеческому участию, по вниманию Власти к своим жизненным заботам! Как отзывчиво сердце на сделанное ма-аленькое добро!..*

*Жаль, очень жаль, что не ценят у нас власть имущие такие вот качества. Видят в людях больше настырных "жителей" и надоедливое "население", чем сограждан, которыми не надо командовать, а с которыми надо жизнь прожить.*

*Предстоит, значит, многому нам всем учиться. Редко, к сожалению, получаем мы письма, подобные этому. В большинстве из них иное — боль, тоска, обида.*

*Так что спасибо вам, Анна Шубина, и всему вашему семейству! Честно говоря, не уверены даже, достойна ли слов вашей благодарности та помощь, которую оказала вам газета.*

*К сожалению, всем помочь мы не в силах. И потому скажем просто — люди, спешите делать добро. Все! Это единственный способ сделать нашу жизнь счастливее. Для каждого...*

*Рэпарцёр даведаўся*

## Ход канём з вёскі

**Аддаленасць вёскі Узрэчча Глыбоцкага раёна ад сусветных шахматных цэнтраў не перашкодзіла васьмікласніку Ігару Лук'яненку атрымаць першы разрад па інтэлектуальнаму віду спорту і пуцёўку на юніёрскі чэмпіянат Еўропы.**

Такі вынік рэспубліканскіх адборачных спаборніцтваў у Мінску. Своеасаблівай трэніроўкай перад еўрапейскім турнірам стане для Ігара чэмпіянат Віцебскай вобласці сярод дарослых.

Поспех падлетка — заслуга ягонага бацькі, Алега Сяргеевіча, які прыахвоціў здольнага сына да шахмат.

**Сяргей СЯРГЕЕЎ.**

## Пралятаюць міма касы цягнікі...

**Напаўпустымі праходзяць праз Магілёў пасажырскія паязды з Украіны, Малдовы, Расіі.**

Але ўзяць на іх білеты ў касе вакзала немагчыма. А вось "зайцоў" праваднікі і начальнікі паяздоў прымаюць з вялікай ахвотай. Праўда, дзяруць з іх па тры шкуры наяўнымі ў любых грашовых знаках — ад карбованца да беларускага "зайчыка". Прыдумана гэта геніяльна проста: кіраўнікі "замежных" паяздоў не паведамляюць у касы аб наяўнасці свабодных месц, а ўсе распрадаюць самі.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ.**

*Искренне*

# Давайте не будем класть ноги на стол соседа!

**Владимир КОРМИЛКИН, ветеран МО бывшего СССР, русский**

Хотел бы обратиться к русскоязычному населению, военнослужащим как в отставке, так и действительной службы Республики Беларусь.

Автор этих строк — ветеран Вооруженных Сил бывшего СССР, ныне пенсионер, русский по национальности, проживающий на земле Беларуси несколько десятков лет.

Взяться за перо и написать это обращение меня вынуждают многие жизненные обстоятельства. А именно: зачем снова поднимать вопрос об использовании белорусского языка на исконно белорусской земле? Кто дал моральное право депутатам Верховного Совета, так называемому парламентскому большинству, пытаться ввести статус двуязычия? Почти все республики бывшего СССР давно решили языковую проблему. Но в Беларуси, как в той пороховой бочке, тлеет огонь ненависти некоторых людей ко всему белорусскому — к обычаям, обрядам, праздникам, государственным символам белорусского народа. Не надо ждать национального взрыва, не надо пользоваться толерантностью белорусов, не надо отвергать все то, что исстари принадлежит белорусской нации. Надо уважать тот народ, среди которого вы живете. Вспомните, сколько зла причинил "старший брат" многим бывшим республикам СССР? Литва, Латвия, Эстония, Молдова, Грузия. Это ближнее зарубежье, а дальнее? Венгрия — 1956 год, Чехословакия 1968, ГДР — 1953 год, Афганистан — 1979 и т. д.

Не пора ли наконец-то одуматься? Может, хватит этих Андреевых, Жириновских, Макашовых, Невзоровых и т.п.? Всех не перечислишь. Все эти господа побывали в Беларуси и оставили зерна яда великодержавного русского шовинизма. Семена этой отравы взошли, к сожалению, на нашей многострадальной земле. Но наша добрая воля уничтожает эти шовинистические всходы — не дадим поссорить между собой русский и белорусский народы, которые бок о бок в страшные годы Великой Отечественной войны сражались и победили коричневый фашизм. Победили вместе и красный сталинизм. Так зачем теперь разжигать национальный пожар? Летом горели леса Беларуси, тушить их было тяжело. Но этот пожар тушить будет гораздо труднее. Надо всем нам все-таки уважать белорусский народ и его гостеприимство. Как сказал на митинге 25 августа 1992 года историк, ныне покойный Михась Ткачев: "Нет такого народа, который мог быть обижен на белоруса. И тот, кто с нами живет, кто стоит с нами рядом в это нелегкое время, всегда может надеяться на нашу помощь. И это может быть русский и поляк, и татарин, и еврей. И любой, кто ищет приют на нашей гостеприимной земле. Но мы, призывая вас за сегодняшний праздничный стол, просим только об одном — не кладите, пожалуйста, ноги на этот стол, потому что в этом доме мы все-таки хозяева..."

...И последнее. Нам все эти десятилетия не давали выучить белорусский язык. Но мы, приехав сюда из разных мест, полюбили этот край лесов и озер, полюбили этот гостеприимный белорусский народ, который дал таких видных писателей и поэтов, как Янка Купала, Якуб Колас, Василь Быков, Алесь Адамович, и многих других. Язык этих писателей — святой язык народа.

Призываю всех русских, живущих в Республике Беларусь: будьте добры к белорусам, не считайте их братьями младшими. Коль соединили свою судьбу с Беларусью, давайте будем жить в мире и дружбе, давайте не будем класть ноги на стол соседа...

Народная газета

Зацверджана пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь
ад 3 лютага 1993 г. нумар 56

# ПАПАЖЭННЕ

## Аб парадку назначэння і выплаты дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей

### I. Агульныя палажэнні

1. У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей" назначаюцца і выплачваюцца наступныя дапамогі:

па цяжарнасці і родах;

у сувязі з нараджэннем дзіцяці;

маці, якая стала на ўлік да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці;

па догляду дзіцяці да 3 гадоў;

на дзяцей:

ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў;

ва ўзросце ад 6 да 13 гадоў;

ва ўзросце ад 13 да 16 гадоў (вучняў дзённых сярэдніх школ, гімназій, ліцэяў і іншых такога тыпу навучальных устаноў да іх заканчэння, а таксама навучэнцаў, якія вучацца за кошт асабістых сродкаў у вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на курсах, што працуюць па рэжыму навучальных устаноў у дзённы час, і не атрымліваюць стыпендый, — да 18 гадоў);

па догляду хворага дзіцяці;

па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў у выпадку хваробы маці;

па догляду дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў;

пры санаторна-курортным лячэнні дзяцей-інвалідаў;

на дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека або хворых на СНІД.

Акрамя таго, назначаюцца і выплачваюцца наступныя надбаўкі да дапамог:

на дзяцей адзінокім маці, разведзеным мужчынам і жанчынам, калі адзін з бацькоў ухіляецца ад уплаты аліментаў, або ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, калі спагнанне аліментаў немагчыма;

на дзяцей адзінокім маці з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, — былых выхаванцаў дзіцячых дамоў (школ-інтэрнатаў);

на выхоўваемых у сям'і дзяцей-інвалідаў ва ўзросце да 16 гадоў;

на дзяцей ваеннаслужачых тэрміновай службы.

2. Дзяржаўныя дапамогі і надбаўкі да іх назначаюцца і выплачваюцца пастаянна сем'ям, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь і выхоўваюць дзяцей:

работнікаў прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый усіх форм уласнасці і гаспадарання;

грамадзян, якія ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць без адукацыі юрыдычнай асобы;

членаў сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак;

грамадзян, якія з'яўляюцца членамі творчых саюзаў;

грамадзян, якія маюць статус ваеннаслужачых у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб статусе ваеннаслужачых";

асоб радавога і начальніцкага саставу органаў дзяржаўнай бяспекі і ўнутраных спраў;

асоб, зарэгістраваных беспрацоўнымі ва ўстаноўленым парадку;

навучэнцаў прафесійна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных, вышэйшых навучальных устаноў, аспірантаў і клінічных ардынатараў, якія вучацца з адрывам ад вытворчасці;

пенсіянераў.

Замежныя грамадзяне, якія маюць дзяцей, карыстаюцца ў Рэспубліцы Беларусь правам на дапамогі, калі гэта прадугледжана міжнароднымі дагаворамі або пагадненнямі.

Асобы без грамадзянства, якія маюць дзяцей і пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, маюць права на дапамогу нараўне з грамадзянамі рэспублікі, калі іншае не прадугледжана заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

3. Выплата дзяржаўных дапамог і надбавак да іх праводзіцца за кошт сродкаў, адлічваемых на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне, а таксама дзяржаўнага бюджэту.

Размер дапамогі падлягае індэксацыі і прыводзіцца ў адпаведнасць з мінімальнай заработнай платай.

Дапамогі не абкладаюцца падаткамі, акрамя дапамог па догляду хворага дзіцяці, па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў і дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў у выпадку хваробы маці, пры санаторна-курортным лячэнні дзяцей-інвалідаў.

### II. Агульны парадак назначэння і выплаты дапамог і надбавак да іх

4. Назначэнне і выплата дапамог і надбавак да іх ажыццяўляюцца, як правіла, па месцы работы, вучобы (службы) маці дзіцяці, а калі маці не працуе і не вучыцца, — па месцы работы або вучобы (службы) бацькі (усынавіцеля, апекуна) або іншага сваяка, які мае права на дапамогу ў сувязі з выхаваннем дзіцяці або доглядам яго, на падставе заявы і ўсіх неабходных дакументаў.

Дапамогі і надбаўкі да іх назначаюцца спецыяльнай камісіяй па назначэнню дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, ствараемай на прадпрыемствах, ва ўстановах, арганізацыях.

Калі маці або асоба, якая мае права на атрыманне дапамог і надбавак да іх, не працуе і не вучыцца, то пытанні аб назначэнні ім дапамог на дзяцей разглядаюцца камісіямі, ствараемымі выканаўчымі камітэтамі раённых, гарадскіх, раённых у гарадах Саветаў народных дэпутатаў, і дапамогі выплачваюцца органамі сацыяльнага забеспячэння па месцы пражывання.

Калі ў сям'і ёсць дзеці ад першага шлюбу жонкі (мужа) і агульныя дзеці, то дапамогі на ўсіх дзяцей, у тым ліку падчарыц і пасынкаў, назначаюцца па месцы работы (вучобы, службы) маці (мачахі), а ў выпадку, калі яна не працуе, — па месцы работы (вучобы, службы) бацькі (айчыма).

Калі працуючая жанчына, якая знаходзіцца ў паўторным шлюбе, мае дзяцей ад папярэдніх шлюбаў або народжаных, калі не знаходзілася ў шлюбе, а таксама агульных дзяцей, а муж не працуе, то дапамогі назначаюцца і выплачваюцца ёй толькі на дзяцей ад папярэдніх шлюбаў або народжаных, калі жанчына не знаходзілася ў шлюбе. Пры гэтым муж і агульныя дзеці ў саставе сям'і не ўлічваюцца.

Дапамогі сем'ям непрацуючых пенсіянераў Міністэрства абароны, Міністэрства ўнутраных спраў, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, якія выхоўваюць дзяцей, у выпадку, калі жонка (муж) пенсіянера не працуе і не вучыцца, назначаюцца і выплачваюцца адпаведнымі падраздзяленнямі гэтых міністэрстваў па месцазнаходжанню пенсіённых спраў.

Заявы аб назначэнні дапамог і надбавак да іх разглядаюцца органамі, якія назначаюць дапамогі, не пазней чым за 10 дзён з дня іх падачы з усімі дакументамі.

У выпадку адмовы ў назначэнні дапамогі адпаведная камісія паведамляе аб гэтым заяўніку не пазней як за 5 дзён пасля вынясення рашэння з указаннем прычыны адмовы і парадку абскарджання, а таксама вяртае ўсе дакументы.

Месяцам звароту за назначэннем дапамог на дзяцей лічыцца месяц прыёму заявы з усімі неабходнымі дакументамі.

У тых выпадках, калі да заявы прыкладзены не ўсе неабходныя дакументы, заяўніку паведамляецца, якія дакументы павінны быць прадстаўлены дадаткова.

Дакументы, неабходныя для назначэння дапамог, могуць быць прадстаўлены як у арыгіналах, так і ў копіях, завераных ва ўстаноўленым парадку.

Заяву аб назначэнні дапамогі з усімі прадстаўленымі дакументамі, а таксама пратакол або рашэнне камісіі аб назначэнні дапамогі, або выпіска з яго захоўваюцца ў асабістай справе атрымальніка.

На прадпрыемствах, у арганізацыях, ва ўстановах, што выплачваюць дапамогі на дзяцей, складаюцца спісы асоб, якія атрымліваюць гэтыя дапамогі. Гэтыя спісы складаюць асобы, назначаныя загадам кіраўніка прадпрыемства, установы, арганізацыі.

Спісы асоб, якія атрымліваюць дапамогі на дзяцей, складаюцца (удакладняюцца) па стану на апошні дзень справаздачнага месяца.

Выплата дапамог на дзяцей праводзіцца па разлікова-плацежных ведамасцях.

6. Дапамогі на дзяцей і надбаўкі да іх, прадугледжаныя гэтым палажэннем, назначаюцца і выплачваюцца з дня ўзнікнення права на іх, калі зварот за дапамогай быў зроблены на працягу 6 месяцаў з дня ўзнікнення гэтага права.

У выпадку звароту за гэтымі дапамогамі і надбаўкамі пасля 6 месяцаў з дня ўзнікнення права на іх яны назначаюцца і выплачваюцца з месяца звароту.

Дапамогі па цяжарнасці і родах, па догляду хворага дзіцяці, па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў і дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў у выпадку хваробы маці, пры санаторна-курортным лячэнні дзяцей-інвалідаў назначаюцца, калі зварот за імі быў зроблены не пазней 6 месяцаў з дня аднаўлення працаздольнасці, заканчэння водпуску па цяжарнасці і родах.

7. У выпадку пераходу атрымальніка дапамогі на іншую работу выплата дапамогі па месцы ранейшай работы спыняецца і аднаўляецца па новым месцы работы з таго часу, з якога гэта выплата была спынена, пры ўмове, калі сям'я мела права на гэту дапамогу, але не больш чым за 6 месяцаў. Па новым месцы работы атрымальнік прадстаўляе даведку з указаннем часу апошняй выплаты дапамогі і ўсе неабходныя для назначэння дапамогі дакументы.

Пры выездзе сем'яў з дзецьмі за мяжу тэрмінам больш чым на 2 месяцы выплата дапамог сем'ям спыняецца.

На дзяцей, якія знаходзяцца ў дзіцячай установе на дзяржаўным забеспячэнні, дзяржаўныя дапамогі выплачваюцца толькі за перыяд знаходжання дзяцей у сям'і ў час летніх канікул.

8. Назначаныя сумы дапамогі і надбавак да іх, не запатрабаваныя своечасова, выплачваюцца аднаразова за мінулы перыяд, але не больш чым за 3 гады да звароту за атрыманнем дапамогі.

Сумы дапамог і надбавак да іх, не атрыманыя своечасова па віне органа, які назначае або выплачвае дапамогі, выплачваюцца аднаразова за мінулы час без абмежавання якім-небудзь тэрмінам і падлягаюць індэксацыі.

У выпадку ўзнікнення акалічнасцей, якія вядуць да спынення або аднаўлення выплаты дапамогі (усынаўленне дзіцяці, афармленне апекі, смерць дзіцяці, змяшчэнне дзіцяці на дзяржаўнае забеспячэнне, пазбаўленне бацькоўскіх правоў і г.д.), яе выплата спыняецца або аднаўляецца з дня, наступнага за тым, у якім узніклі адпаведныя акалічнасці.

Дапамогі па цяжарнасці і родах, па догляду хворага дзіцяці, па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў і дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў у выпадку хваробы маці, пры санаторна-курортным лячэнні дзяцей-інвалідаў, не выплачаныя да дня смерці атрымальніка, выдаюцца членам сям'і, якія пражывалі сумесна з ім, а таксама асобам, якія знаходзіліся з-за непрацаздольнасці на ўтрыманні памёршага.

Сумы дзяржаўных дапамог, залішне выплачаныя ў выніку злоўжывання з боку атрымальніка (прадстаўленне дакументаў з заведама няправільнымі звесткамі, утойванне заработку або іншага даходу, непрадстаўленне звестак аб зменах у саставе сям'і), утрымліваюцца ў поўным размеры з наступных выплат дапамог або з заработнай платы. У выпадку адмовы ад добраахвотнага пакрыцця залішне выплачаных сум дапамог яны спаганяюцца ў судовым парадку.

Сумы дапамог, залішне выплачаныя ў выніку лічыльнай (арыфметычнай) памылкі або па віне органа, які назначае або выплачвае дапамогі, утрымліваюцца штомесячна ў размеры не больш як 20 працэнтаў дапамогі.

9. Налічэнне і выплата дапамог на дзяцей праводзяцца адначасова з налічэннем і выплатай заработнай платы.

### III. Віды дапамог і надбавак да іх. Дакументы, прадстаўляемыя для іх назначэння. Асаблівасці выплаты

**Дапамогі па цяжарнасці і родах**

10. Дапамогі па цяжарнасці і родах выплачваюцца за перыяд водпуску, прадастаўляемага на 126 каляндарных дзён (жанчынам, якія пражываюць на тэрыторыі з радыеактыўным забруджаннем 1 кі/кв.км і вышэй, —на 146 дзён). У выпадку ўскладненых родаў або нараджэння двух і больш дзяцей гэтыя дапамогі выплачваюцца адпаведна за 140 і 160 каляндарных дзён незалежна ад колькасці дзён, фактычна выкарыстаных да родаў. Асобы, якія ўсынавілі дзіця або ўзялі яго на выхаванне ў апекунскую (прыёмную) сям'ю (пад апеку) ва ўзросце да 3 месяцаў, маюць права на дапамогу за 70 каляндарных дзён з дня ўсынаўлення, апекі. Падставай для назначэння дапамогі па цяжарнасці і родах з'яўляецца выдадзены ва ўстаноўленым парадку лісток непрацаздольнасці. Іншыя дакументы не могуць служыць падставай для назначэння дапамогі.

11. Права на дапамогу маюць жанчыны:

занятыя на любой рабоце, дзе яны падлягаюць дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню, незалежна ад працягласці іх работы перад водпускам па цяжарнасці і родах;

звольненыя з ваеннай службы ў сувязі з цяжарнасцю і родамі, а таксама з ліку ваеннаслужачых, асоб радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў і дзяржаўнай бяспекі;

тыя, хто вучыцца з адрывам ад вытворчасці ў прафесійна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, у тым ліку і за кошт асабістых сродкаў, у аспірантуры, клінічнай ардынатуры, а таксама тых, хто

закончыў навучальныя ўстановы, — на працягу 2-месяцаў пасля заканчэння;

зарэгістраваныя беспрацоўнымі з правам атрымання стыпендыі або дапамогі па беспрацоўю, а таксама тыя, хто страціў права на стыпендыю або дапамогу па беспрацоўю ў сувязі з заканчэннем устаноўленага тэрміну іх выплаты.

12. Дапамога па цяжарнасці і родах працуючым жанчынам і жанчынам, звольненым з ваеннай службы, а таксама з ліку ваеннаслужачых, радавога і начальніцкага саставу органаў унутраных спраў і дзяржаўнай бяспекі выплачваецца ў размеры 100 працэнтаў сярэдняга заработку (грашовага ўтрымання), але не менш 2 мінімальных заработных плат; тым, хто вучыцца з адрывам ад вытворчасці, а таксама тым, хто закончыў навучальныя ўстановы, — у размеры стыпендыі, але не менш 2 мінімальных заработных плат, а тым, хто вучыцца за кошт уласных сродкаў, — у размеры 2 мінімальных заработных плат; зарэгістраваным беспрацоўнымі — у размеры дапамогі (стыпендыі) па беспрацоўю, але не менш 2 мінімальных заработных плат; тым, хто страціў права на дапамогу па беспрацоўю ў сувязі з заканчэннем устаноўленага тэрміну яе выплаты, — у памеры 2 мінімальных заработных плат. Мінімальная, заработная плата прымяняецца ў размеры, устаноўленым на момант, калі жанчына ідзе ў водпуск па цяжарнасці і родах. Пры змяненні на працягу гэтага водпуску размеру мінімальнай заработнай платы размер дапамогі таксама пераглядаецца з дня яе змянення.

13. Дапамога па цяжарнасці і родах выплачваецца па месцы работы (вучобы, службы), а жанчынам, зарэгістраваным беспрацоўнымі, — па месцы атрымання дапамогі па беспрацоўю.

14. Гэты парадак назначэння і выплаты дапамог па цяжарнасці і родах прымяняецца пры афармленні водпуску па цяжарнасці і родах з 1 студзеня 1993 г.

15. Дапамога па цяжарнасці і родах не выплачваецца за час знаходжання пад арыштам, правядзення судова-медыцынскай экспертызы, а таксама за час прымусовага лячэння па вызначэнню суда (акрамя псіхічных хворых).

**Аднаразовая дапамога пры нараджэнні дзіцяці**

16. Аднаразовая дапамога пры нараджэнні дзіцяці назначаецца і выплачваецца на падставе даведкі ЗАГСа аб нараджэнні дзіцяці. Пры гэтым не мае значэння, колькі пражыло дзіця пасля нараджэння. На дзяцей, якія нарадзіліся мёртвымі, дапамога не выдаецца.

**Дапамога маці, якія сталі на ўлік да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці**

17. Дапамога выплачваецца жанчыне, якая стала на ўлік у жаночай кансультацыі да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці, рэгулярна наведвала ўрача і выконвала ўсе яго прадпісанні. Падставай для назначэння дапамогі з'яўляецца даведка, выдадзеная ўрачом жаночай кансультацыі ў парадку, вызначаемым Міністэрствам аховы здароўя.

**Дапамога па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў**

18. Дапамога па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў выплачваецца працуючым маці або бацьку, якія знаходзяцца ў водпуску па догляду дзіцяці, іншаму сваяку, усынавіцелю (апекуну), а таксама непрацуючым жанчынам, што маюць дзяцей ва ўзросце да 3 гадоў.

19. Калі ў час водпуску па догляду дзіцяці да дасягнення ім узросту 3 гадоў нараджаецца наступнае дзіця, то за перыяд прадастаўляемага жанчыне водпуску па цяжарнасці і родах дапамога па догляду першага дзіцяці выплачваецца ў поўным размеры. Пасля заканчэння водпуску па цяжарнасці і родах дапамога выплачваецца на кожнае дзіця.

20. Працуючым бацьку, бабулі, дзядулю або іншаму сваяку, акрамя працуючых пенсіянераў па ўзросту, якія фактычна ажыццяўляюць догляд дзіцяці, водпуск па догляду яго можа быць прадастаўлены пры наяўнасці даведкі з месца работы (службы, вучобы) маці дзіцяці аб яе выхадзе на работу да заканчэння тэрміну ўказанага водпуску і спыненні выплаты ёй дапамогі на дзіця. Для далейшага пераафармлення водпуску іншаму працуючаму сваяку асобай, якая знаходзіцца ў водпуску, па месцы работы маці прадстаўляецца даведка аб яе выхадзе на работу. На падставе гэтай даведкі адміністрацыя па месцы работы (вучобы) маці выдае ёй новую даведку, аб тым, што яна не знаходзіцца ў водпуску і не атрымлівае дапамогі, для афармлення водпуску па догляду дзіцяці іншай асобе.

21. У перыяд знаходжання ў водпуску па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў маці або іншая асоба, якая фактычна ажыццяўляе догляд дзіцяці, могуць працаваць на ўмовах няпоўнага рабочага часу (але не менш палавіны месячнай нормы) або дома. Пры гэтым за ёй захоўваецца права на атрыманне дапамогі ў поўным размеры.

22. У выпадку прыпынення водпуску па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў у сувязі з выхадам на работу на поўны рабочы дзень або на работу на ўмовах няпоўнага рабочага часу (больш палавіны месячнай нормы), а таксама пры афармленні дзіцяці ў дзіцячую дашкольную ўстанову выплачваецца 50 працэнтаў устаноўленай дапамогі.

23. Маці або бацька, якія знаходзяцца ў водпуску па догляду дзіцяці і адначасова працягваюць вучобу ў прафесійна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах з адрывам ад вытворчасці, маюць права на атрыманне стыпендыі і дапамогі ў поўным размеры. Водпуск абавязкова афармляецца загадам кіраўніка навучальнай установы. Пры гэтым выдаецца загад аб прадастаўленні маці (бацьку) магчымасці свабоднага наведвання заняткаў, парадак якога вызначаецца навучальнай установай.

24. Для назначэння дапамог па догляду дзіцяці да заявы прыкладаюцца наступныя дакументы:

копія пасведчання аб нараджэнні дзіцяці;

даведка з месца пражывання аб саставе сям'і, выдадзеная адпаведным органам выканаўчага камітэта мясцовага Савета народных дэпутатаў (ЖЭК, РЭУ, ЖБК);

даведка ўчастковага (сямейнага) урача аб тым, што дзіця не аформлена ў дзіцячую дашкольную ўстанову.

У заяве ўказваецца, што ў выпадку афармлення дзіцяці ў дзіцячую дашкольную ўстанову маці абавязуецца паведаміць аб гэтым органу, які назначыў дапамогу.

**Дапамогі на дзяцей ва ўзросце звыш 3 гадоў**

25. Дапамогі на дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16 гадоў (вучняў дзённых сярэдніх школ, гімназій, ліцэяў і іншых такога тыпу навучальных устаноў, а таксама навучэнцаў, якія вучацца за кошт асабістых сродкаў у вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установах і на курсах, у тым ліку абароннага спартыўна-тэхнічнага таварыства, якія працуюць па рэжыму навучальных устаноў у дзённы час, і не атрымліваюць стыпендый, — да 18 гадоў) назначаюцца і выплачваюцца сем'ям пры ўмове ўплаты (у тым ліку прадпрымальнікамі, фермерамі не менш як 8 месяцаў у годзе, які папярэднічаў году звароту за дапамогай) узносаў на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне, а таксама сем'ям, дзе бацькі з'яўляюцца або студэнтамі (навучэнцамі) вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, якія вучацца з адрывам ад вытворчасці, або ваеннаслужачымі, ці беспрацоўнымі, што атрымліваюць дапамогу па беспрацоўю, або непрацаздольнымі.

26. У 1993 годзе дапамогі на дзяцей асобам, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, і фермерам назначаюцца без уліку ўплаты ўзносаў на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне ў 1992 годзе.

27. Права на дапамогі маюць таксама працаздольныя непрацуючыя маці (бацька) у няпоўнай сям'і, якія ажыццяўляюць догляд дзіцяці ва ўзросце да 8 гадоў, пры ўмове, што дзіця не наведвае дзіцячую дашкольную ўстанову.

28. Дапамогі назначаюцца і выплачваюцца ў поўным аб'ёме, калі сярэдні сукупны даход на члена сям'і ў месяц не перавышае двухразовай велічыні мінімальнай заработнай платы, і ў размеры 50 працэнтаў ад устаноўленай дапамогі, калі сярэдні сукупны даход на члена сям'і ў месяц не перавышае трохразовай велічыні мінімальнай заработнай платы за той год, за які вылічваецца сукупны даход на члена сям'і.

29. Палажэнне аб парадку вылічэння сукупнага даходу на члена сям'і пры назначэнні дапамог на дзяцей распрацоўваецца і зацвярджаецца Дзяржаўным камітэтам па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Міністэрствам фінансаў.

30. Дапамогі на дзяцей сем'ям, якія выхоўваюць дзіця-інваліда, дзіця, інфіцыраванае вірусам імунадэфіцыту чалавека або хворае на СНІД, ва ўзросце да 16 гадоў, а таксама сем'ям ваеннаслужачых тэрміновай службы назначаюцца незалежна ад сукупнага даходу на члена сям'і. Без уліку сукупнага даходу на члена сям'і назначаюцца дапамогі на іншых дзяцей, якія не з'яўляюцца інвалідамі, а таксама ў тых выпадках, калі дзіця-інвалід пражывае ў сям'і і адначасова вучыцца ў спецыяльных навучальных установах інтэрнатнага тыпу (прыходзячы кантынгент).

31. Калі адначасова абодва працаздольныя бацькі, або адзін бацька ў няпоўнай сям'і, які выхоўвае дзіця ва ўзросце старэй за 8 гадоў, або бацька ў поўнай сям'і не працавалі больш чым 6 месяцаў у годзе, які папярэднічаў году звароту за дапамогай, або не працуюць звыш 4 месяцаў на момант узнікнення права, дапамога на дзяцей не назначаецца і не выплачваецца ў бягучым годзе.

32. Калі абодва працаздольныя бацькі або адзін бацька ў няпоўнай сям'і, які выхоўвае дзіця ва ўзросце старэй за 8 гадоў, страцілі работу па не залежачых ад іх прычынах, не зарэгістраваны ў дзяржаўнай службе занятасці або зарэгістраваны ў ёй, але не маюць права на дапамогу па беспрацоўю, выканкамы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў маюць права дазволіць выплату дапамог на дзяцей.

33. Асобы, якія працуюць па грамадзянска-прававых дагаворах, права на атрыманне дапамог не маюць.

34. Сем'ям, якія прыбылі ў Рэспубліку Беларусь на пастаяннае месца пражывання, дапамогі на дзяцей ва ўзросце старэй за 3 гады назначаюцца ў выпадку, калі бацькі адпрацавалі ў рэспубліцы ў годзе, які папярэднічае году звароту за дапамогай, не менш як 8 месяцаў.

35. Сем'і, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, права на дапамогу не маюць, калі адзін з бацькоў не працуе, а другі працуе за межамі рэспублікі, калі іншае не прадугледжана міжнароднымі дагаворамі або пагадненнямі.

36. Калі дзеці пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а бацькі працуюць за яе межамі, дапамогі на дзяцей назначаюцца толькі ў тым выпадку, калі гэта прадугледжана міжнароднымі дагаворамі або пагадненнямі.

37. Дапамогі на дзяцей старэй за 16 гадоў, якія закончылі дзённыя сярэднія школы, дадаткова выплачваюцца ў год заканчэння школы за ліпень.

38. Для назначэння дапамог на дзяцей ва ўзросце ад 3 да 16(18) гадоў да заявы дадаюцца наступныя дакументы:

копія пасведчання аб нараджэнні дзіцяці;

даведка з месца пражывання, выдадзеная адпаведным органам мясцовага Савета народных дэпутатаў (ЖЭС, РЭУ і г.д.), аб саставе сям'і з указаннем прозвішча, імя, імя па бацьку, сваяцкіх адносін кожнага члена сям'і і роду іх заняткаў. Гэта даведка прымаецца пры ўмове, калі з дня яе выдачы і да прадстаўлення прайшло не больш як 2 месяцы;

даведка навучальнай установы — на дзяцей старэй за 14 гадоў;

даведка аб даходах кожнага члена сям'і;

дэкларацыя аб даходах.

Члены сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, грамадзяне, якія ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць, прадстаўляюць даведку аддзялення пенсіённага фонду аб плаце ўзносаў на дзяржаўнае сацыяльнае страхаванне.

Разведзеныя жанчыны (мужчыны) прадстаўляюць таксама копію пасведчання аб скасаванні шлюбу, адпаведныя дакументы, якія пацвярджаюць атрыманне аліментаў.

Калі жанчына (мужчына) не атрымлівае аліментаў з-за пражывання асобы, абавязанай да іх выплаты, на тэрыторыі краін СНД, з якімі ў Рэспубліцы Беларусь адсутнічае дагавор аб прававой дапамозе, то гэта пацвярджаецца даведкай паштовага аддзялення па месцы пражывання, дзе ўказваецца, што на працягу года, за які вылічваецца сукупны даход сям'і, паштовых пераводаў па аліментах на яе (яго) імя не паступала.

Калі жанчына (мужчына) не атрымлівае аліментаў з-за пражывання асобы, абавязанай да выплаты аліментаў, на тэрыторыі іншых замежных дзяржаў, то гэта пацвярджаецца даведкай, выдадзенай Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

39. Дапамога на дзіця, якое знаходзіцца пад апекай, назначаецца з дня прыняцця выканкамам мясцовага Савета народных дэпутатаў рашэння аб устанаўленні апекі.

Апякун, які звярнуўся з заявай за дапамогай, прадстаўляе наступныя дакументы:

рашэнне выканкама аб устанаўленні апекі;

даведку з месца пражывання дзіцяці;

копію пасведчання аб нараджэнні дзіцяці;

даведку са школы;

дакумент, які пацвярджае адсутнасць аднаго з бацькоў: копія пасведчання аб смерці; копія рашэння суда аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў, адабранні дзіцяці, прызнанні бязвестна адсутнічаючым, аб'яўленні памёршым, прызнанні недзеяздольным; копія прыгавора суда аб асуджэнні; медыцынскі дакумент аб працяглай хваробе аднаго з бацькоў, якая перашкаджае выкананню сваіх абавязкаў; даведка з органаў унутраных спраў аб вышуку;

даведку аб даходах бацькоў (аднаго з іх);

даведку з ЗАГСа аб тым, што звесткі аб бацьку дзіцяці ўнесены ў пасведчанне аб нараджэнні са слоў маці (для дзіцяці адзінокай маці);

даведку з дзіцячага дома або школы-інтэрната аб тым, што адзінокая маці з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, адносілася да гэтай катэгорыі дзяцей на момант выпуску з інтэрнатнай установы.

**Дапамогі па догляду хворага дзіцяці, дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў і дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў у выпадку хваробы маці, дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў**

Дапамога па догляду хворага дзіцяці ва ўзросце да 14 гадоў выдаецца на ўвесь перыяд, на працягу якога дзіця згодна з заключэннем урача мае патрэбу ў доглядзе, але не больш чым на 14 каляндарных дзён у размеры 100 працэнтаў сярэдняга заработку (грашовага ўтрымання) незалежна ад стажу работы маці, бацькі або іншай асобы, якая ажыццяўляе догляд дзіцяці.

41. Пры стацыянарным лячэнні дзіцяці ва ўзросце да 14 гадоў, якое згодна з заключэннем урача мае патрэбу ў дадатковым доглядзе, маці, бацьку або іншаму сваяку прадастаўляецца магчымасць знаходзіцца з ім у лячэбнай установе з выплатай дапамогі па догляду дзіцяці ў размеры 100 працэнтаў сярэдняга заработку за ўвесь перыяд, на працягу якога дзіця мае патрэбу ў доглядзе.

42. Дапамога працуючай асобе, занятай доглядам дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў і дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў у выпадку хваробы маці або іншай асобы, якая фактычна ажыццяўляе догляд дзіцяці, выдаецца ў размеры 100 працэнтаў сярэдняга заработку за ўвесь перыяд, калі маці або іншая асоба згодна з заключэннем урача не можа ажыццяўляць догляд дзіцяці.

43. Падставай для назначэння дапамог па догляду хворага дзіцяці ва ўзросце да 14 гадоў, па догляду дзіцяці ва ўзросце да 3 гадоў і дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў у выпадку хваробы маці з'яўляецца лісток непрацаздольнасці, выдаваемы ва ўстаноўленым парадку.

44. Для назначэння дапамогі непрацуючым і не атрымліваючым пенсій асобам, якія ажыццяўляюць догляд дзіцяці-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў, да заявы дадаецца дакумент аб тым, што асоба, якая ажыццяўляе догляд, не працуе і не атрымлівае пенсію (навучэнцы прыраўноўваюцца да працуючых). Калі ажыццяўляецца догляд дваіх і больш дзяцей-інвалідаў, дапамога выплачваецца на кожнага з іх. Выплата дапамогі праводзіцца органам сацыяльнага забеспячэння.

45. Аднаму з працуючых бацькоў, апекуну (папячыцелю), які выхоўвае дзіця-інваліда ва ўзросце да 16 гадоў, на ўвесь перыяд санаторна-курортнага лячэння такога дзіцяці (без уліку чарговага і дадатковага водпускаў) выдаецца дапамога ў размеры 100 працэнтаў іх сярэдняга заработку. Падставай для назначэння дапамогі з'яўляецца лісток непрацаздольнасці, выдаваемы ва ўстаноўленым парадку. Перыяд лячэння вызначаецца па пуцёўцы (курсоўцы) з улікам часу на праезд туды і назад урачэбна-кансультацыйнай камісіяй паліклінікі пры наяўнасці медыцынскага заключэння аб неабходнасці індывідуальнага догляду дзіцяці і паказанняў для лячэння.

**Дапамога на дзяцей, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека або хворых на СНІД**

46. Дапамога на дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека або хворых на СНІД, назначаецца і выплачваецца рэспубліканскім цэнтрам прафілактыкі і барацьбы са СНІДам у парадку і на ўмовах, вызначаемых Міністэрствам аховы здароўя і Міністэрствам сацыяльнага забеспячэння.

Гэта дапамога выплачваецца незалежна ад таго, атрымліваюць гэтыя дзеці іншыя дапамогі і пенсіі па дзеючай сістэме сацыяльнага забеспячэння ці не.

**Надбаўкі да дзяржаўных дапамог**

47. **На дзяцей адзінокім маці.** Надбаўка да дапамогі на дзяцей назначаецца адзінокай маці, калі ў пасведчанні аб нараджэнні дзіцяці запіс аб бацьку адсутнічае або зроблены ва ўстаноўленым парадку са слоў маці.

Пры перадачы ва ўстаноўленым парадку дзяцей адзінокай маці на выхаванне апекуну (папячыцелю) надбаўка да дапамогі на дзяцей назначаецца і выплачваецца апекуну (папячыцелю).

Калі адзінокая маці выходзіць замуж, за ёй захоўваецца права на атрыманне надбаўкі да дапамогі на дзяцей, якія нарадзіліся да замужжа.

Надбаўка, назначаная да дапамогі на дзяцей адзінокай маці, не назначаецца і не выплачваецца, калі асоба, ад якой маці нарадзіла дзіця, прызнана ва ўстаноўленым парадку бацькам дзіцяці або калі дзіця ўсыноўлена. Не выплачваецца надбаўка і ў тым выпадку, калі адзінокая маці пражывае, вядзе гаспадарку і выхоўвае дзяцей сумесна з асобай, ад якой мае дзяцей, незалежна ад таго, ці знаходзіцца яна з ёй у зарэгістраваным шлюбе.

Калі жанчына, якая не знаходзіцца ў шлюбе, запісана ў кнізе запісаў нараджэння ў якасці маці ўсыноўленага ёю дзіцяці, то надбаўка да дапамогі як адзінокай маці назначаецца з месяца, у якім яна запісана ў якасці маці.

Для назначэння надбаўкі адзінокай маці да заявы з усімі неабходнымі дакументамі прадстаўляецца дадаткова даведка ЗАГСа аб падставе ўнясення ў пасведчанне аб нараджэнні дзіцяці звестак аб бацьку, а адзінокай маці з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, — былых выхаванцаў дзіцячых дамоў (школ-інтэрнатаў) — даведка аб тым, што яна адносілася да катэгорыі дзяцей-сірот на момант выпуску з інтэрнатнай установы.

48. **На дзяцей разведзеным жанчынам і мужчынам.** Надбаўка да дапамогі на дзяцей разведзеным жанчынам і мужчынам, калі адзін з бацькоў ухіляецца ад уплаты аліментаў або ў іншых выпадках, калі спагнанне аліментаў немагчыма, назначаецца, калі бацькі, абавязаныя да платы аліментаў:

адшукваюцца органамі ўнутраных спраў па вызначэнню судоў і па пастанове следчых органаў у сувязі з ухіленнем ад платы аліментаў;

адбываюць пакаранне ў папраўча-працоўных установах, дзе не маюць заработку, з якога могуць быць спагнаны аліменты;

знаходзяцца на працяглым лячэнні ў лячэбных установах без выплаты дапамогі па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню;

пастаянна пражываюць на тэрыторыі замежнай дзяржавы, з якой у Рэспублікі Беларусь адсутнічае дагавор аб прававой дапамозе, што прадугледжвае пытанні ўзаемнага выканання судовых рашэнняў.

Да заявы з усімі неабходнымі дакументамі дадаткова дадаецца адзін з наступных дакументаў:

рашэнне суда або следчага органа аб аб'яўленні вышуку, паведамленне органа унутраных спраў аб тым, што ў месячны тэрмін з дня аб'яўлення вышуку месцазнаходжанне даўжніка не ўстаноўлена;

даведка папраўча-працоўнай установы аб адсутнасці заработку ў даўжніка, які адбывае пакаранне;

даведка лячэбнай установы аб знаходжанні даўжніка на працяглым лячэнні;

даведка Міністэрства юстыцыі аб адсутнасці з данай дзяржавай дагавора аб прававой дапамозе.

Указаныя дакументы штоквартальна пацвярджаюцца.

Калі разведзеная жанчына (мужчына) выходзіць замуж (жэніцца), права на гэту надбаўку захоўваецца.

49. **На дзяцей ваеннаслужачых тэрміновай службы.** Надбаўка да дапамогі на дзяцей ваеннаслужачых тэрміновай службы назначаецца жонкам ваеннаслужачых, а таксама іншым асобам, якія фактычна ажыццяўляюць догляд дзяцей.

Да ваеннаслужачых тэрміновай службы адносяцца:

асобы, якія праходзяць тэрміновую службу ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб усеагульным воінскім абавязку" ва ўзброеных сілах, унутраных і пагранічных войсках, у Камітэце дзяржаўнай бяспекі і грамадзянскай абароне, іншых воінскіх фарміраваннях, ствараемых згодна з дзеючым заканадаўствам;

курсанты ваенна-навучальных устаноў, школ падрыхтоўкі прапаршчыкаў і мічманаў (акрамя курсантаў з ліку прапаршчыкаў і ваеннаслужачых звыштэрміновай службы).

Выплата надбаўкі да дапамогі спыняецца з дня звальнення ваеннаслужачых з тэрміновай службы або змянення іх службовага становішча: звальненне ў запас або выбыццё яго з ваеннай службы па іншых прычынах, а таксама залічэнне яго на звыштэрміновую або ваенную службу ў якасці прапаршчыка і мічмана, назначэнне на пасаду афіцэрскага саставу з выплатай службовага акладу.

Выплата надбаўкі на дзяцей ваеннаслужачых, затрыманых на тэрміновай службе звыш устаноўленых тэрмінаў, працягваецца на падставе адпаведных даведак воінскіх часцей.

Надбаўка да дапамогі на дзяцей курсантаў ваенных навучальных устаноў, размешчаных на тэрыторыі іншых краін, назначаецца толькі ў тым выпадку, калі ёсць накіраванне на вучобу Міністэрства абароны рэспублікі (акрамя тых, хто паступіў ва ўказаныя навучальныя ўстановы да прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь "Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей").

Для назначэння дапамогі на дзяцей да заявы з усімі неабходнымі дакументамі дадаткова прадстаўляюцца:

даведка раённага (гарадскога) ваеннага камісарыята аб прызыве на тэрміновую службу;

даведка адпаведнай ваенна-навучальнай установы.

50. **На дзяцей-інвалідаў ва ўзросце да 16 гадоў.** Надбаўка да дапамогі на дзяцей-інвалідаў ва ўзросце да 16 гадоў выплачваецца ў выпадку, калі дзіця-інвалід выхоўваецца ў сям'і, што пацвярджаецца даведкай аддзела адукацыі выканкама мясцовага Савета народных дэпутатаў.

Дапамога з надбаўкай выплачваецца сям'і незалежна ад таго, ці атрымлівае дзіця іншыя дапамогі і пенсію па інваліднасці.

Для назначэння надбаўкі да дапамогі на дзіця-інваліда дадаткова павінен быць прадстаўлены дакумент, які пацвярджае, што дзіця з'яўляецца інвалідам.

# Фирма «САНТАНАС» ООО

*Наши платежные реквизиты:*
Фирма “Сантанас” ООО, р/с 5467179 в АКБ “Беларусь”, г. Минск, МФО 153001, код 795.

*Наши телефоны:* (8-0172) 27-11-72, 27-11-84, 27-42-17, 66-14-61.
*Телефакс* (8-0172) 27-11-72.
*Адрес:* 220050, г. Минск, ул. К.Маркса, 5, комн. 8, 10.




## П Р Е Д Л А Г А Е Т

### МЕТАЛЛОПРОДУКЦИЯ

| | | |
|---|---|---|
| ✦ Круг ⌀ 110 ст. 20Х | 1,5 т | 68000 руб./т |
| ✦ Круг ⌀ 70 ст. 20Х | 2,2 т | 68000 руб./т |
| ✦ Круг ⌀ 85 ст. 25ХГТ | 6,3 т | 92000 руб./т |
| ✦ Круг ⌀ 100 ст. 40Х | 2,5 т | 64000 руб./т |
| ✦ Лист 65Г толщ. 6 мм | 10 т | 280000 руб./т |
| ✦ Лист толщ. 3 мм | 10 т | 75000 руб./т |
| ✦ Лист толщ. 0,5 мм | 20 т | 110000 руб./т |
| ✦ Сетка метал. выс. 1,5 м | 2000 $м^2$ | 200 руб./$м^2$ |
| ✦ Сетка оцинков. выс. 1,5 м | 4000 $м^2$ | 260 руб./$м^2$ |
| ✦ Труба в/г 25×1,5 | 22 т | 220000 руб./т |
| ✦ Труба в/г 33,5×3 | 15 т | 220000 руб./т |
| ✦ Труба ⌀ 147×10 | 27 т | 60000 руб./т |
| ✦ Труба ⌀ 129×8 | 7 т | 60000 руб./т |
| ✦ Труба ⌀ 520×10 | 3 т | 40000 руб./т |

Телефон (8-0172) 27-42-17.

### МАШИНОСТРОЕНИЕ

| | | |
|---|---|---|
| ✦ Автопогрузчик 40814 (Львов) 5 т | 2 шт. | 1750000 руб./шт. |
| ✦ Автомобиль ГАЗ-31029 | 1 шт. | 10000000 руб./шт. |
| ✦ Котел отопительный КС-ТГ-200 | 4 шт. | 98000 руб./шт. |
| ✦ Калориферы | | по спецификации |
| ✦ Кран-балка г.п. 3 т дл. 16 м | 2 шт. | 600000 руб./шт. |
| ✦ Котел “Факел”-Г | 20 шт. | 1000000 руб./шт. |
| ✦ Котел “Факел”-0,8 ЛИ-1 | 20 шт. | 1000000 руб./шт. |
| ✦ Конвейер ТК-17-2 дл. 6м | 40 шт. | 60000 руб./шт. |
| ✦ Молот пневматический МА 4129А | 2 шт. | 45000 руб./шт. |
| ✦ Окучник 11042 к агрегату КОН-2,8 | 1000 шт. | 3100 руб./шт. |
| ✦ Окучник малый 1001036 | 1000 шт. | 3500 руб./шт. |
| ✦ Стартер ДВ 1792 к 3-т. погрузчикам | 30 шт. | 45000 руб./шт. |
| ✦ Трактор МТЗ-80 (с пускачом) | 1 шт. | 1650000 руб./шт. |
| ✦ Теплогенератор бытовой Буг-17 | 10 шт. | 40000 руб./шт. |
| ✦ Теплогенератор ТГФ-2,5 Б-02 | 10 шт. | 400000 руб./шт. |
| ✦ Теплогенератор ТГФ-2,5 Б-03 | 10 шт. | 420000 руб./шт. |
| ✦ Станок деревообрабатывающий Д-601 | 5 шт. | 520000 руб./шт. |
| ✦ Станок-автомат отрезно-круглошлифовальный 8Г-663-100 | 10 шт. | 1000000 руб./шт. |
| ✦ Запчасти к автомобилю “Волга” ГАЗ-24, 3102 | | |
| ✦ Машина битумоварочная СО-100 | 2 шт. | 350000 руб./шт. |

Телефон (8-0172) 27-11-84.

### ФИТИНГИ

| | | |
|---|---|---|
| ✦ Контргайки | 15 мм | 30 руб./шт. |
| | 20 мм | 30 руб./шт. |
| | 25 мм | 30 руб./шт. |
| | 32 мм | 40 руб./шт. |
| | 40 мм | 40 руб./шт. |
| ✦ Муфты | 15 мм | 30 руб./шт. |
| | 20 мм | 35 руб./шт. |
| | 25 мм | 45 руб./шт. |
| | 32 мм | 60 руб./шт. |
| | 40 мм | 75 руб./шт. |
| ✦ Угольники | 15 мм | 30 руб./шт. |
| | 20 мм | 35 руб./шт. |
| | 25 мм | 45 руб./шт. |
| | 32 мм | 70 руб./шт. |
| | 40 мм | 95 руб./шт. |

Телефон (8-0172) 27-42-17.

### КАБЕЛЬНАЯ ПРОДУКЦИЯ

| | | |
|---|---|---|
| ✦ Провод ПЭВВП 0,95 (эмаль) | 12 км | 40000 руб./км |
| ✦ Кабель ППВГ 2×1,5 | 45 км | 75000 руб./км |
| ✦ Кабель ПРБ 2×1 | 2 км | 63000 руб./км |
| ✦ Кабель АПВГ 2×2,5 | 30 км | 75000 руб./км |
| ✦ Кабель АПВГ 2×4 | 25 км | 80000 руб./км |
| ✦ Кабель АПВГ 2×5 | 4 км | 83000 руб./км |
| ✦ Кабель АПВГ 4×4 | 25 км | 120000 руб./км |
| ✦ Кабель АВПГ 4×10 | 10 кг | 160000 руб./км |
| ✦ Кабель АКПСВГ 10×2,5 | 5060 м | 330 руб./м |
| ✦ Кабель АКПСВГ 14×2,5 | 3400 м | 396 руб./м |
| ✦ Кабель АКПСВГ 19×2,5 | 1792 м | 479 руб./м |
| ✦ Кабель АКПСВГ 27×2,5 | 1835 м | 611 руб./м |
| ✦ Кабель АКПСВГ 37×2,5 | 2980 м | 776 руб./м |

Телефон (8-0172) 27-11-72.

### ЭЛЕКТРОТЕХНИЧЕСКАЯ ПРОДУКЦИЯ

| | | |
|---|---|---|
| ✦ Светильник ПСХ-60 | 1000 шт. | 430 руб./шт. |
| ✦ Светильник НСП-60 | 1000 шт. | 370 руб./шт. |
| ✦ Коробка распределительная | 1000 шт. | 40 руб./шт. |
| ✦ Коробка установочная | 1000 шт. | 55 руб./шт. |

Телефон (8-0172) 27-11-72.

### КЛЮЧИ ГАЕЧНЫЕ

| | | |
|---|---|---|
| ✦ 5×7 | 2000 шт. | 45 руб./шт. |
| ✦ 12×13 | 500 шт. | 47 руб./шт. |
| ✦ 14×17 | 500 шт. | 49 руб./шт. |
| ✦ 22×24 | 500 шт. | 50 руб./шт. |

Телефон (8-0172) 27-11-72.

### ЛАКОКРАСОЧНАЯ ПРОДУКЦИЯ

| | | |
|---|---|---|
| ✦ Краска автомобильная МЛ-12 черная | 1500 кг | 900 руб./кг |
| МЛ-12 белая | 200 кг | 900 руб./кг |
| ✦ Краска масляная МА-25 салатовая | 1200 кг | 100 руб./кг |
| горчичная | 1200 кг | 100 руб./кг |
| бежевая | 1300 кг | 100 руб./кг |
| ✦ Эмаль белая (банки по 2,3 кг) | 8000 кг | 350 руб./кг |
| ✦ Этилацетат | 1300 кг | 300 руб./кг |
| ✦ Краска масляная М1-25 М (голубая, желтая, салатовая, серая, зеленая, белая) | 1000 кг | 160 руб./кг |
| ✦ Эмаль белая ПР115 | 1000 кг | 350 руб./кг |
| ✦ Эмаль ПФ115 (синяя, зеленая) | 1000 кг | 320 руб./кг |

Телефон (8-0172) 27-11-72.

### ДРУГИЕ ВИДЫ ПРОДУКЦИИ

| | | |
|---|---|---|
| ✦ Радиаторы отопительные чугунные МС-140 | 2000 секций | 1250 руб./секция |
| ✦ Крахмал картофельный | 50 т | 210000 руб./т |
| ✦ Цилиндр гидравлический ЦГ-250-50 (для автобусов ПАЗ) | 20 шт. | 15000 руб./шт. |
| ✦ Чай из дикорастущих лекарственных растений | 70 кг | 980 руб./кг |
| ✦ Горелка газосварочная N2, N3 (мин. партия 5 шт.) | 30 шт. | 5200 руб./шт. |

Телефон (8-0172) 27-42-17.

**ВНИМАНИЮ КЛИЕНТОВ ФИРМЫ “САНТАНАС” 000!**

В связи с изменением графика выхода рекламных материалов “Народная газета” перенесла публикацию информации фирмы “Сантанас” 000 со среды на четверг.

*В последующем с информацией фирмы вы сможете знакомиться в “Народной газете” каждый второй и четвертый вторник. Редакция приносит свои извинения фирме.*

